Марыя Масягіна

# Цікавая вандроўка

## Казка пра тое, як старыя рэчы знайшлі новы дом



Мінск
«Альтиора Форте»
2017




Выданне падрыхтавана і выдадзена ў межах праекта ЕС «Развіццё паслуг у сферы кіравання адходамі для сельскага насельніцтва Пухавіцкага раёна, Мінская вобласць».

Змест публікацыі з'яўляецца прадметам адказнасці МГА «Экапартнёрства» і не можа разглядацца ў якасці пункту гледжання Еўрапейскага саюза.

Праект фінансуецца ЕС

Пухавіцкі
райвыканкам

www.pukhovichi.minsk-region.by

ЭКОПАРТНЁРСТВО

www.ecopartnerstvo.by



Была цёплая восеньская раніца. У празрыстым блакітным небе радасна свяціла сонейка, дзе-нідзе былі відаць маленькія хмаркі, якія сарамліва хаваліся адна за адну.

Фен прачнуўся самы першы, яму карцела хутчэй рушыць у вандроўку. Але было зусім рана, і ён вырашыў яшчэ ціхенька паляжаць, каб нікога не разбудзіць. Думкі пераскоквалі і перабівалі адна адну. Было сумна, што не ўсе пойдуць з імі і што ён не будзе больш бачыць прыгожыя расліны і рознакаляровае лісце, якое яму зараз асабліва падабалася. Але ад думак пра прыгоды, якія іх чакаюць, і ад таго, якую карысную справу яны задумалі, яму станавілася радасна.

Фен узгадаў, як усё гэта пачалося, і ўсміхнуўся.



У той дзень да іх прывезлі радыё ў вялікім чорным пакеце разам са старым акумулятарам і кінулі побач з іншымі рэчамі. Як высветлілася, радыё было вельмі адукаваным і адразу зразумела, што трапіла на стыхійны сметнік. Калі яно яшчэ працавала, то любіла слухаць перадачы пра навакольнае асяроддзе і стала вельмі дасведчаным у гэтым кірунку. Яно і расказала ўсім рэчам, што электронныя і электрычныя прылады складаюцца з вялікай колькасці розных частак, якія павінны перарабляцца ў спецыяльных умовах. Такія рэчы не павінны разбірацца ці выкідацца разам з астатнімі на агульны сметнік. І тым больш яны не павінны апынуцца ў лесе ці на лузе. Бо ў іх ёсць разбуральныя рэчывы, якія шкодзяць усяму жывому.

Яшчэ фен памятаў нешта пра атрутныя элементы, што трапляюць у зямлю і ў расліны. Таму, калі, напрыклад, тэлевізар перастаў функцыянаваць, яго трэба аднесці ў спецыяльны пункт прыёму. Але, відаць, не ўсе слухаюць радыё, таму і не ведаюць, што рабіць, часта думаў фен.

Аднойчы радыё расказала фену па сакрэце, што ў праграмах такія прылады называлі небяспечнымі адходамі. Аднак, паколькі само радыё было з гэтым вельмі не згоднае, гэтую дэталь яно звычайна забывала расказаць падчас сваіх лекцый.

Але, галоўнае, як толькі яны даведаліся пра тое адмысловае месца, дзе перарабляюць рэчы, яны вырашылі абавязкова да яго дабрацца. Радыё памятала, што месца гэтае было недзе ў вялікім горадзе і называлася ці то «прыём важных рэчаў», ці то «прыём цікавых рэчаў». Вандроўку доўга рыхтавалі і планавалі. Спачатку ўсе вырашылі пайсці разам. Але перад тым, як трэба было выпраўляцца ў шлях, частка рэчаў перадумала. Адны лічылі, што ім і так добра, а іншыя, што гэта праблемы людзей і рэчы не павінны іх вырашаць.






Як натхняльнік і стваральнік плану, радыё лічыла сябе самым важным і заўсёды раздавала каманды. Яшчэ яно недзе знайшло акуляры з адным шкельцам і начапляла іх дзеля большай сур’ёзнасці шторазу, калі пераказвала перадачы ці ўступала ў дыскусіі. Ніхто не адважваўся яму сказаць, што ў акулярах яно больш нагадвала пірата, чым навукоўца.

Успаміны фена перабіла гучная гаворка, і ён адразу здагадаўся, у чым рэч. Калі фен дайшоў да месца, дзе ішла размова, там ужо сабралася палова сметніка і распачалася бурная спрэчка. Гучней за ўсіх, як заўжды, вяшчала радыё.

– Ты не можаш пайсці з намі! – сурова сказала радыё, а маленькая батарэйка, якая заўсёды знаходзілася там, дзе ішла спрэчка, заківала.

– Калі ласка, вазьміце мяне з сабой, – з адчаем у голасе прасіў незвычайна высокі і хударлявы градуснік. Уздоўж аднаго боку ў яго была вялікая расколіна, абвязаная скотчам.

– Як жа ты не разумееш?! А што, калі ты разваލішся ў дарозе? Усіх нас загубіш! – улезла ў размову электрычная лямпачка.

– Ты не дойдзеш так далёка! – у адзін голас загаманілі драты-блізняты.

– Цішэй, цішэй! – настаўніцкім тонам сказала радыё. – Мы ўжо ўсё вырашылі. Ты пакуль застанешся тут, таму што….



Але яно не паспела дагаварыць, як нечакана стала цёмна. Усе спачатку знерухомелі, а потым паглядзелі ўгару. Над імі павісла цікаўная хмарка і так заслухалася, што не заўважыла, як апусцілася і закрыла ўсё святло.

– Ты адкуль узялася? – запытала вялікая шэрая каробка, якая раней, відаць, была тэлевізарам, але зараз пра гэта нагадвала толькі аднавокая кнопка выключальніка і кавалак экрана.

– І чаго падслухоўваеш? – дзелавіта дадала маленькая батарэйка і зноў схавалася за каробку.

– Я… я не хацела, – прашаптала хмарка. Ёй стала сорамна, і яна трошачкі адпаўзла назад. Драты здзіўлена паглядзелі адзін на аднаго і захіхікалі. Яны так рабілі заўсёды, таму ніхто не звярнуў на іх ўвагі. А хмарка вырашыла выправіць няёмкую сітуацыю і запытала:

– А што вы тут робіце? І куды збіраецеся?



Радыё адчула, што гэта зноў яго зорны час, начапіла акуляры і ўжо збіралася распачаць лекцыю... Але фен прадбачыў гэта і сцісла патлумачыў, што адбываецца, пакуль радыё выбірала месца, з якога яго было б добра чуваць.

Хмарка на хвілінку задумалася, а потым сказала:

– А чаму вас пакінулі тут? Ёсць жа палігоны для смецця і спецыяльныя месцы для збору і перапрацоўкі тых рэчаў, якія нікому ўжо непатрэбныя ці трошачкі паламаныя, – зразумеўшы ўсю складанасць сітуацыі, хмарка спрабавала быць дыпламатычнай, але зноў расхвалявалася.

– Каб мы ведалі... – разам уздыхнулі мабільны тэлефон і магнітная стужка, якія далучыліся да размовы.

– Калі мяне прывезлі сюды напрыканцы вясны, тут ужо былі два тоўстыя пакеты і старая шына. Яны так і жывуць тут, толькі пакеты прымарнелі, – расчаравана сказала каробка і паказала ў бок, дзе спалі пакеты.



Хмарка пацямнела ці то ад здзіўлення, ці то ад абурэння і запытала:

– А навошта вам так далёка? Такія месцы ёсць паўсюль, нават у звычайных крамах, дзе прадаюць электронныя і электрычныя прылады. Яны завуцца «прыём небяспечных адходаў».

Пачуўшы такую назву, радыё пачырванела і ўжо было гатовае выказаць усё, што назбіралася, пакуль яму не давалі гаварыць.

– Увогуле, назву я дакладна не ведаю, – хутка выправілася хмарка, паглядзеўшы на радыё, і дадала, – але бліжэйшы пункт не так далёка, я магу паказаць!

– Шлях усё роўна будзе складаным, таму мы не можам браць непадрыхтаваных, – улезла шкадлівая батарэйка і шматзначна паглядзела ў бок градусніка.

А граднуснік у гэты час спрабаваў выцягнуць нагу з гумкі і такі вызваліўся, калі пачуў, пра што зайшла гаворка:

– Не пакідайце мяне тут, я дайду…

– Гэта небяспечна, што будзе, калі…. – але каробка не паспела дагаварыць, як умяшаўся фен:

– Якая розніца, калі ён ра… – і тут ён запнуўся. – Увогуле, кожны сам павінен несці адказнасць і прымаць рашэнні. Мы не можам забараняць ці прымушаць.

Усе на хвілінку задумаліся, і толькі радыё станоўча заківала.

– Мы гатовы ісці. Куды? – вельмі важна запытала хмарку лямпачка.



Хмарка трошачкі ўзляцела, агледзелася па баках, распушылася, каб яе было лепш відаць. Потым выцягнула адзін бок у форме стралы і павольна паплыла. Спрэчкі скончыліся, і рэчы радасна пайшлі туды, куды паплыла хмарка.

Усе былі такія ўражаныя, што размовы паціху пераўтварыліся ў моцны гул. Хмарка спрабавала распавядаць пра месцы, дзе яны праходзілі, і пра тых, хто там жыў, але яе цяжка было пачуць.

– А ёсць такія месцы, дзе ніхто не жыве? – няўпэўнена запытала маўклівая электрычная кававарка.

– Амаль няма, зараз паўсюль жывуць пластыкавыя бутэлькі і пакеты.

Усе замаўчалі.



Пад вечар сябры дайшлі да крамы, дзе знаходзіўся пункт прыёму, а таксама збор батарэек. Але было ўжо позна, і дзверы былі зачыненыя. Рэчы трошачкі расчараваліся, бо ім вельмі хацелася апынуцца на месцы менавіта сёння. Але нічога не зробіш, яны пачалі размяшчацца ў двары, каб паспаць.

І тут дзверы нечакана расчыніліся, і на парозе з’явіўся іх стары знаёмы – манітор. Ён не пайшоў разам з астатнімі, таму што не мог пакінуць сваю лепшую сяброўку – клавіятуру. А тая прынцыпова не хацела ісці. Яна была вельмі пакрыўджаная, бо яе выкінулі толькі праз тое, што яе кнопачкі больш не былі самай моднай формы.

Ад такой нечаканай сустрэчы падарожнікі замаўчалі і пачалі аглядвацца. Тут былі ўсе, каго яны пакінулі ў лесе.



– Як вы тут апынуліся? – здзіўлена запытаў фен.

– Праз некалькі гадзін пасля таго, як вы пайшлі, прыехалі людзі. Яны разабралі ўсе рэчы, расклалі па розных пакетах і каробках. Бутэлькі пластыкавыя паехалі асобна, шкляныя – асобна, а вось нас, электрычныя прылады, прывезлі сюды.

Некаторыя забухцелі:

– Вось не трэба было ісці.

Фен ніколі не бачыў столькі рознай тэхнікі, прыладаў і батарэек. Там былі рэчы, якім ён нават назвы не ведаў. Ён радасна падумаў, што ўсё ж такі шмат людзей слухалі тыя карысныя праграмы па радыё.





Літаратурна-мастацкае выданне

**Масягіна** **Марыя Яўгенаўна**

**ЦІКАВАЯ ВАНДРОЎКА**
**КАЗКА ПРА ТОЕ,**
**ЯК СТАРЫЯ РЭЧЫ ЗНАЙШЛІ НОВЫ ДОМ**

Для дзяцей сярэдняга школьнага ўзросту

Адказны за выпуск: Белая А.А.
Мастак-ілюстратар: Воля Кузьміч, www.animatarka.com

Выдадзена па замове МГА «Экапартнёрства»
www.ecopartnerstvo.by

Падпісана ў друк 26.01.2017. Фармат 60х90 1/8.
Папера Creda. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 2. Ул. - выд. арк. 0,25.
Тыраж 1000 экз. Заказ 246.

Выдавец і паліграфічнае афармленне ТАА «Альтиора Форте».

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў №1/506 ад 14.10.2016

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі выдаўца, вытворцы, распаўсюджвальніка друкаваных выданняў №2/172 ад 18.12.2014

Вул. Сурганава, д. 11, каб. 86, 220072, г. Мінск, Тэл./факс: +375 17 294 90 94

---

УДК 821.161.3 - 93
ББК 84 (4 Беи) - 44
М 32

**ISBN 978-985-7175-11-6**

